# Ніва


БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 20 (794) ГОД XVI БЕЛАСТОК 16 МАЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.


ДНІ АСВЕТЫ, КНІЖКІ І ПРЭСЫ

## ГІСТОРЫЯ ПАРТЫЗАНСКАЙ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Нашу размову пра кніжку вядзем з беластоцкім гісторыкам, аўтарам фундаментальнай працы пра савецкіх партызан на Беласточчыне ў час гітлераўскай акупацыі. Аўтарам з'яўляецца Міхал Гнатоўскі.

— Май — свята кніжкі, галоўнай крыніцы чалавечых ведаў. Віншуем Вас, што выдалі добрую і каштоўную кніжку. Гэта добрая работа. Як нарадзілася вашае зацікаўленне партызанскай тэматыкай?

— Пачаткі маіх сувязей з партызанскай тэмай былі ў 1960 годзе і паўсталі даволі выпадкова. Я пераканаўся тады, што перыяд акупацыі на Беласточчыне — гэта ў навуковай літаратуры белая пляма. У 1962 годзе глядзеў адну варшаўскую выстаўку пра рух Супраціўлення ў нашай краіне. Помню, на вялікай карце на выстаўцы гарэлі электрычныя лямпачкі ў розных пунктах краіны, дзе дзейнічаў у часы акупацыі рух Супраціўлення. Толькі на Беластоцкім ваяводстве на гэтай карце не гарэла аніводная лямпачка. Факт нервуючы. Хутка потым Музей рэвалюцыйнага руху ў Беластоку рыхтаваў выстаўку пра беластоцкі рух Супраціўлення. Мне даверылі падрыхтаваць сцэнарый для выстаўкі. Павандраваў я ў пошуках па архівах, выехаў у СССР — быў у Мінску і Гродне. Сцэнарый для выстаўкі зрабіў, але быў ён адначасова пачаткам маіх шырэйшых зацікаўленняў тэматыкай.

— А ваша адукацыя?

— Я закончыў у 1959 годзе Маскоўскі універсітэт імя Ламаносава. Вывучаў там гісторыю партый, асабліва КПСС міжваеннага перыяду.

— Як паўставала кніжка?

— Пасля пачатку са сцэнарыем для выстаўкі ў 1965 годзе я зноў выбраўся ў СССР, у архівы. Працаваў у Маскве, Вільнюсе, Мінску. У Мінску дайшоў у архіў Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Там знайшоў дакументы партызанскіх дзеяў беластоцкай акругі, матэрыялы багацейшыя, чым у нашых архівах, хоць таксама няпоўныя. Здаралася бачыць дакументы паасобных партызан, але часта не хапала матэрыялаў пра цэлыя аддзелы.

— Заглянулі вы ў тыя архівы, на пажоўклых лістах спаткалі адважных людзей і бурлівыя дзеі нашай зямлі...

Працяг на стар.4



*Бельск. Новая пошта.* *Фота Цаф — Сянько*

ДЗЕНЬ ДЗЕЯЧА КУЛЬТУРЫ



## У ЦЕНЮ СЛАВЫ

Ані ГРН, ані пошты няма на месцы, толькі адна бібліятэка з 4 000 кніжак і адна пані — бібліятэкарша, якая ўжо 20 год працуе на вёсцы — у бібліятэках і святліцах.

Тры гады таму назад Ольга Пракапюк прыняла грэдалёўскую бібліятэку і памалу ўзялася за тое, каб вакол яе гуртаваць людзей, усіх, каго зацікавіць кніжка, усіх, хто захоча, усіх, каму хочацца схапіць крыху больш свету, чым дагэтуль яго было ў іхніх вокнах. Бібліятэка пачала ператварацца ў галоўны цэнтр усялякіх вясковых зацікаўленняў, амбіцый і пошукаў.

Бібліятэкарша Ольга не замкнулася ў пакоі, і кніжка выйшла да людзей. Як зацікавіла яна людзей, якія на кніжцы не выхоўваліся, а напэўна і такіх, якія кніжкі ніколі не чыталі і такіх, якія ў бок бібліятэкі не глядзелі?

Бо трэба ж з людзьмі гаварыць. Хадзіць у іхнія хаты, у сяброўскай размове і пра кніжку ўспомніць. Людзі працуюць цяжка, багацеюць, а на кніжку, на газету часу не маюць. Але калі яна даступная, калі зацікавіць... Пачынаецца як бы адраджэнне.

Відавочныя вынікі працы грэдалёўскай бібліятэкі паказаліся ў ленінскім конкурсе ў 1970 годзе. Конкурс стаў

Працяг на стар.4



*Абедзве жанчыны з гэтага здымка выступаюць у рэпартажы. Гэта Ніна Мартынюк (злева) і Марыя Амельянюк. Здымак зроблены ў час іхняга выступлення ў конкурсе «Беларуская песня — 1971» у Беластоку.*

*Фота Цаф — Сянько*

## БГКТ ХРОНІКА

■ Пасяджэнне прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ 27 красавіка было прысвечана наступным справам: а) ацэнцы працы камісіі асветы і разгледжанню яе прапаноў, б) ацэнцы ўдзелу членаў пленума і прэзідыума ў пленарных пасяджэннях ГП БГКТ і прэзідыума, в) прыдзелу абавязкаў членам пленума і прэзідыума ў набліжаючайся (у IV квартале) справаздачна-выбарнай кампаніі БГКТ. Затым прэзідыум выслухаў тры інфармацыі: 1) інфармацыю аб працы створанай нядаўна камісіі ў справе забеспячэння маёмасці БГКТ, 2) інфармацыю аб рэалізацыі бюджэта таварыства ў першым квартале і 3) інфармацыю аб рамонце памяшкання ГП.

■ 27-га красавіка прэзідыум беластоцкага павятовага аддзела БГКТ на сваім пасяджэнні абмеркаваў арганізацыйныя справы, звязаныя з арганізацыяй народнага фэстыну, прысвечанаму 15-ай гадавіне Беларускага таварыства. Фэстын адбудзецца ў ляску паміж Валіламі і Гарадком ў дзень 30-га мая.

■ 28-га красавіка адбылося пасяджэнне прэзідыума сакольскага аддзела БГКТ, прысвечанае прыдзелу новых абавязкаў прэзідыуму праўлення аддзела.

■ 28-га красавіка працаўнікі Галоўнага праўлення і члены прэзідыума сакольскага аддзела выязджалі ў вясковыя гурткі ў гэтым павеце. Кіраўнікі аддзелаў ГП Сяргей Лукашук, Лідзія Антанюк і Кастусь Хлябіч былі ў Паўднёвым Востраве, Новым Востраве і Грыбоўшчыне, а члены прэзідыума сакольскага аддзела Аляксандр Рафаловіч, Аляксандр Казлоўскі, Марыя Юрылік і Віталі Чыжэўскі наведалі гурткі БГКТ у Гуранах, Сухінічах, Кнышэвічах і Гаркавічах. На сходзе ў спамянутых вёсках шмат асоб падпісала дэкларацыі БГКТ. І так, у Новым Востраве 18 чалавек, а ў Грыбоўшчыне 9.

■ Выдавецкая камісія Галоўнага праўлення БГКТ падрыхтавала ўжо да друку і здала ў друкарню зборнік вершаў пад загалоўкам «Ракіта» Уладзіміра Гайдука з вёскі Тарнопаль, што ў Гайнаўскім павеце.

■ Сямяціцкі аддзел БГКТ арганізуе народны фэстын, прысвечаны 15-ай гадавіне Беларускага таварыства 13-га чэрвеня ў вёсцы Літвінавічы. (мх)

 

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

 СВЕТ  БССР  ПОЛЬШЧА  ВАЯВОДСТВА

## СВЕТ

### МІСІЯ РОДЖЭРСА

Дзяржаўны сакратар ЗША У. Роджэрс зрабіў паездку па краінах Блізкага Усходу.

У час знаходжання ў ААР ён вёў перагаворы з намеснікам прэм'ер-міністра і міністрам замежных спраў Махмудам Рыядам аб становішчы на Блізкім Усходзе. На гэтых перагаворах разглядалася таксама ініцыятыва ААР, звязаная з аднаўленнем міжнароднага суднаходства па Суэцкаму каналу пры ўмове частковага адводу ізраільскіх войск з Сінайскага паўвострава ў якасці першага этапа вываду ізраільскіх войск з усіх акупіраваных тэрыторый і выканання рэзалюцыі Савета Бяспекі ААН ад 22 лістапада 1967 года ў яе поўным аб'ёме.

Егіпецкі бок растлумачыў сваю пазіцыю, выкладзеную ў прамове прэзідэнта А. Садата на першамайскім масавым мітынгу ў Халуане. Прэзідэнт падкрэсліў, што ААР не пойдзе ні на якія ўступкі ў пытанні аб вывадзе ізраільскіх войск з усіх акупіраваных арабскіх тэрыторый і цвёрда прытрымліваецца сваёй пазіцыі ў адносінах да ўмоў адкрыцця Суэцкага канала.

Перад адбыццём з егіпецкай сталіцы Роджэрс быў прыняты прэзідэнтам Анварам Садатам.

Пасля Роджэрс адправіўся ў Тэль-Авіў, каб прадставіць ізраільскаму ураду прапановы Садата ў справе адкрыцця Суэцкага канала.

Што ж было мэтай паездкі амерыканскага дзяржаўнага сакратара да 5-ці краін Блізкага Усходу? Перш за ўсё была гэта спроба паправы амерыканскіх пазіцый на Блізкім Усходзе. Дапамога, якую атрымлівае Ізраіль ад ЗША без ніякіх перашкод, дыскрэдытавала ЗША ў вачах арабскіх краін. З другога боку Роджэрс хоча выступіць у ролі арбітра ў блізкаўсходнім канфлікце. Праз гэта Злучаныя Штаты хочуць панізіць аўтарытэт ААН, якая сваімі рэзалюцыямі і выступленнямі генеральнага сакратара рашуча асуджае палітыку агрэсіі.

Аднак цяжка адыгрываць ролю арбітра, калі маральна і матэрыяльна падтрымліваецца адзін з бакоў і то ў даным выпадку, агрэсіўны бок. І таму можна сказаць наступнае пра візіт Роджэрса на Блізкі Усход: не многа ён прывёз і не многа вывозіць з арабскіх краін.

### ЦІ ЯКАБСОН БУДЗЕ САКРАТАРОМ?

У сувязі з тым, што набліжаюцца выбары генеральнага сакратара ААН, а паводле правіл У Тан далей ім быць не можа, штораз часцей гаворыцца пра шматгадовага ірландскага дыпламата пры ААН Якабсона, як кандыдата на пасаду генеральнага сакратара ААН.

Аднак з прычыны яўрэйскага паходжання гэтага дыпламата арабскія краіны баяцца, ці ў сувязі з гэтым сіяніскія кругі не пачнуць рабіць уплыў на гэтага чалавека, што, зразумела, павялічыла б і так складаную сітуацыю на Блізкім Усходзе. (ак)

## БССР

### ДАВЕРАНЫЯ НАРОДАМ

Ва ўсіх воблaсцях адбыліся сходы працоўных Савецкай Беларусі, прысвечаныя вылучэнню кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР. На сходзе рабочых Аршанскага льнокамбіната кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР быў вылучаны А. М. Касыгін. Калгаснікі калгаса «Гвардыя» Бераставіцкага раёна вылучылі ў кандыдаты генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. І. Брэжнева, а на сходзе ў калгасе «Зара» Карэліцкага раёна аднагалосна кандыдатам вылучаны быў сакратар ЦК КПБ У. Ф. Міцкевіч. Кандыдатам працоўных Пухавіцкага раёна будзе вядомы беларускі пісьменнік Іван Шамякін.

### ЮБІЛЕЙ УНІВЕРСІТЭТА

Беларускі дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга універсітэт імя У. І. Леніна ў Мінску існуе ўжо 50 год. Яшчэ ў 1919 годзе цэнтральныя ўлады Беларусі прынялі дэкрэт, у якім, між іншым, было сказана, што «...адкрыццё універсітэта ў горадзе Мінску з'яўляецца справай першараднай важнасці...» Астатнова універсітэт у Мінску распачаў працу ў 1921 годзе. З франтоў і з вёсак сабралося тады 1390 першых студэнтаў.

Цяпер у БДУ вучыцца 18 тысяч студэнтаў, сярод якіх вельмі многа іншаземцаў, асабліва з краін, якія змагаюцца зараз за сваё вызваленне або адстойваюць сваю свабоду.

За гады існавання БДУ выпусціў 29 тысяч добра падрыхтаваных спецыялістаў. Беларускі універсітэт шырока вядомы за мяжой. Ён адзін з першых членаў Міжнароднай асацыяцыі універсітэтаў.

### ЗАПРАШАЕМ У КІНО

За гады мінулай, восьмай пяцігодкі ў БССР пабудаваны 32 новыя кінатэатры на 13850 месц. Цяпер кіназалы гарадоў і вёсак Савецкай Беларусі могуць адначасова прыняць 160 тысяч гледачоў. У адзінаццаць разоў узрасла за пяцігодку колькасць сельскіх шырокаэкранных кінаўстановак.

### Ў СЛУЦКУ...

...закладзены падмурак камбіната будаўнічых канструкцый для жывёлагадоўчых ферм.

### У БАРАНАВІЧАХ

У студзені г.г. распачалася пабудова завода аўтаматычных ліній. Гэта буйнейшая будоўля дзевятай пяцігодкі.

### У РЭЧЫЦЫ...

...будуюць судны. У час перадмайскай ударнай вахты высокай ахвярнасцю адзначыліся рабочыя з брыгады камуністычнай працы, якой кіруе Уладзімір Серака. Яны перавыканалі норму на 125—130 працэнтаў.

### У ГОМЕЛІ

Побач гомельскага фанеразапалкавага камбіната распачалося будаўніцтва новай запалкавай фабрыкі, якая амаль поўнасцю будзе аўтаматызаванай. Новая фабрыка будзе выпускаць паўтара мільёна карабкоў запалак у год. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### СВЯТКАВАННЕ ШЛЁНСКАГА ПАЎСТАННЯ

2 мая г.г. з нагоды 50-ай гадавіны выбуху III Шлёнскага паўстання ў гарадах Апольскага і Катавіцкага ваяводстваў адбылося ўрачыстае святкаванне для ўшанавання памяці герояў паўстання. У Апольскім ваяводстве адбылася вялікая маніфестацыя, спалучаная са злётам былых салдатаў Рацібορскага палка паўстанцаў, якая адбылася ў нядзелю ў Раціборы ля Помніка паўстанчага подзвігу. Здарэнні 50-гадовай даўнасці прыпомніў у сваім выступленні I сакратар павятовага камітэта ПАРП Юзэф Грушка. Падчас урачыстасці 9 асоб было ўзнагароджана Кавалерскімі крыжамі ордэна Адраджэння Польшчы. Маніфестацыя адбылася таксама ў Чэнстахове, дзе была адкрыта мемарыяльная пліта.

### ДЗЯРЖАЎНЫЯ ЎЗНАГАРОДЫ

Напярэдадні 50 гадавіны III Шлёнскага паўстання і 26-ай гадавіны перамогі над фашызмам — 5 мая г.г. у Варшаве ўзнагароджана высокімі дзяржаўнымі адзначэннямі 90 асоб, якія змагаліся за нацыянальнае і грамадскае вызваленне. Палкоўнік Ю. Зентэк атрымаў назначэнне на генерала брыгады. З нагоды 50-ай гадавіны трэцяга Шлёнскага паўстання па прапанове Палітычнага Бюро ЦК ПАРП і Прэзідыума ўрада Савет дзяржавы назначыў усіх шлёнскіх паўстанцаў падпаручнікамі. — Такім чынам, — пацвердзіў Э. Герэк, — мы хочам выказаць глыбокую пашану для заслуг, якія аддалі шлёнскія паўстанцы айчыне.

### З ВІЗІТАМ У Э. ГЕРКА

I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк прыняў 6 мая г.г. дэлегацыю будаўнікоў і плавільшчыкаў металургічнага завода «Глогуў». Праінфармавалі яны I сакратара ЦК ПАРП аб тым, што больш чым на 3 месяцы раней перdesigned да ўжытку асноўныя аб'екты завода.

### ВЯЛІКАЯ МАНІФЕСТАЦЫЯ

З нагоды 50-ай гадавіны III Шлёнскага паўстання і 26-ай гадавіны Дня Перамогі адбылася ў Катавіцах цэнтральная ўрачыстасць. Была гэта вялікая маніфестацыя насельніцтва Шлёнска (каля 10 тысяч асоб). Выступіў з прамовай прэм'ер Пётр Ярашэвіч. Уся краіна ўшанавала памяць загінуўшых у час баёў II сусветнай вайны, а таксама выказала глыбокую ўдзячнасць воінам Савецкай Арміі, якія ў 1945 годзе прынеслі нам свабоду.

### ПОМНІК МАРТЫРАЛОГІІ ДЗЯЦЕЙ

9 мая г.г. з нагоды 26-ай гадавіны перамогі над фашысцкімі захопнікамі адбылося ў Лодзі ўрачыстае адкрыццё помніка мартыралогіі дзяцей — ахвяр гітлерызму, а таксама прысваенне імя «Гераічных польскіх дзяцей» лодзінскай харугвіі ЗГП.

Начальнік ЗГП С. Багдановіч паведаміў аб заканчэнні VII алерту ЗГП. Зухі і гарцэры правялі ў час алерту 200 тысяч сустрэч з удзельнікамі баёў II сусветнай вайны, з перадавікамі ў працы, дзеячамі ЗБоВіД, маладзёжнымі дзеячамі і г.д., а таксама прымалі ўдзел у грамадскіх чынах. (яц)

## ВАЯВОДСТВА

### ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

Напярэдадні Дня Перамогі адбылася сустрэча партыйных і дзяржаўных улад ваяводства з прадстаўнікамі ЗБоВіД. У сустрэчы прымалі ўдзел I сакратар ВК А. Лашэвіч, старшыня Прэзідыума ВРН С. Жмійка, сакратар Галоўнага праўлення ЗБоВіД А. Барщчэўскі, прэзас акруговага праўлення ЗБоВіД плк. Я. Анацік.

Удзельнікі Кастрычніцкай рэвалюцыі, шлёнскія і вялікапольскія паўстанцы, змагары з санацыяй у міжваенны перыяд, удзельнікі вайны ў Іспаніі, удзельнікі II сусветнай вайны — былыя салдаты, партызаны, вязні канцэнтрацыйных лагераў, барацьбіты за народную Польшчу ў 26-ую гадавіну Дня Перамогі дыскутавалі над выхаваннем маладога пакалення, дзяліліся дасягненнямі ў галіне арганізацыі апекі над месцамі забойстваў, над аховай памяці загінуўшых у часы фашысцкага тэрору.

9 мая на могілках воінаў і ля помніка Удзячнасці ў беластоцкім парку адбыліся ўрачыстыя варты і былі пакладзены вянкі і кветкі.

* ✲ *

Напярэдадні Дня Перамогі над фашыстамі адбылося ўрачыстае заканчэнне гарцэрскага алерту гэтага года, які праходзіў пад лозунгам «Нашай бела-чырвонай — памяць, спраўнасць, чын».

Ваяводскае падсумоўванне сёлетняга алерту адбылося ў вёсцы Райск Бельскага павета. На ўрачыстасці прысутнічалі сакратар ВК партыі В. Мікульскі, намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Р. Лазаровіч, старшыня ВК СД Р. Бартнік, старшыня ВК ФАН С. Юхніцкі і іншыя запрошаныя госці.

У Райску таксама быў адчынены па ініцыятыве беластоцкага музея рэвалюцыйнага руху Пакой народнай памяці.

### ДНІ АСВЕТЫ, КНІЖКІ І ПРЭСЫ

У нядзелю, 9 мая, у нашым ваяводстве, як і ва ўсёй краіне, пачаліся ўжо традыцыйныя Дні асветы, кніжкі і прэсы. На гэтыя дні прадугледжаны цэлы шэраг розных культурных мерапрыемстваў. Адкрыў Дні асветы кніжны кірмаш, які прыцягваў у гэты пагодны дзень вельмі шмат наведвальнікаў. Апрача продажу кніжак, на кірмашы праводзіліся конкурсы, латарэя, аўтары падпісвалі свае кніжкі.

У гэты ж дзень вечарам адбыліся ўрачысты канцэрт самадзейнасці вучняў сельскагаспадарчых школ, лекцыі ў клубах, канцэрт і забава ў парку.

### ДЗЕНЬ БУДАЎНІКОЎ

У сувязі з Днём будаўнікоў у мінулую суботу адбылася ў тэатры імя А. Вянгеркі ўрачыстая акадэмія. У прысутнасці ваяводскіх улад I сакратар ВК партыі А. Лашэвіч падзякаваў будаўнікам за старанную працу, 8 працаўнікоў будаўніцтва было ўзнагароджана Крыжамі Заслугі, а 17 працаўнікоў будаўніцтва атрымала адзнаку «Заслужаны для Беласточчыны». З нагоды дня будаўнікоў і ў сувязі з 20-годдзем беластоцкай прамысловасці будаўнічых матэрыялаў адкрыта ў Беластоку выстаўка матэрыялаў, якія выпрабляюцца ў нашым ваяводстве. (яч)




**Niedziela, 16 maja**

7.40 Program dnia. 7.45 TV Kurs Rolniczy: „BHP w ochronie roślin". 8.20 „Przypominamy, radzimy". 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 TV Klub Śmiałych. 10.15 „Szczecińskie słowiki" 11.00 „Wakacje z duchami" — film. 11.30 „Przemiany". 12.00 Dziennik. 12.15 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej o Mistrzostwo I Ligi. Górnik — Zagłębie. 14.00 Dla dzieci: „Krzesiwo" — film szwedzki. 14.25 „Spotkanie z pisarzem" — Janusz Przymanowski. 14.50 „W starym kinie". 15.50 „Tele — Uniwersjada" — finał. 16.50 TV Spotkania Teatralne: I. Vyskočil — „Bracia syjamscy". 17.40 „Piórkiem i węglem". 18.15 „Stefan Rachoń zaprasza". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Z powinszowaniem imienin". 21.05 „Między metą a startem" — rep. z Wyścigu Pokoju. 21.25 „Wygnańcy Ewy". 22.00 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek, 17 maja**

15.20 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.45 XXIV Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia X etapu na trasie Zwickau — Sokolov. 17.35 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 18.15 „Festyn Wioślarski" — film jap. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: M. Domański — „Kroś nowy". 21.30 „Studio przebojów" — program rozr. TV NRD. 22.20 Dziennik. 22.35 Kronika Wyścigu Pokoju.

**Wtorek, 18 maja**

9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — Fr. Zabłocki „Fircyk w zalotach". 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Na piastowskich zamkach". 10.20 „Do widzenia, do jutra" — film fab. pol. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Ocena i selekcja zwierząt". 15.10 i 22.45 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.15 Program dnia. 16.20 „Tatry białe i zielone" — film dok. TVP („Krajobraz Polski"). 16.35 Dziennik. 16.50 XXIV Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XI etapu na trasie Sokolov — Usti n/Łabą. 17.50 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Do widzenia, do jutra" — film fab. pol. 21.35 „Panorama Literacka". 22.05 Dziennik. 22.20 Kronika Wyścigu Pokoju.

**Środa, 19 maja**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Z iskry rozgorzeje płomień". 10.55 „Boniwur" — film radz. cz. II. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Cement". 12.45 „Wybieramy zawód". 15.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.45 XXIV Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XII etapu na trasie Usti n/Łabą — Jablonec. 17.45 „Powrót wielkiego trampa" — program publ. 18.15 TV Kurier Warszawski. 18.30 „Dialogi historyczne". 19.10 Dobranoc. 19.25 Sprawozdanie z finałowego meczu piłki nożnej o Puchar Europy Chelsea — Real Madryt. W przerwie ok. 20.15 PKF. Po transmisji ok. 21.15 Dziennik. 21.45 „Boniwur" — film radz. odc. II. 22.45 „Światowid". 23.15 Kronika Wyścigu Pokoju.

**Czwartek, 20 maja.**

8.15 Matematyka w szkole: Wstęp do teorii maszyn matematycznych (zajęcia fakultatywne) cz. I. 9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — „Julian Tuwim". 10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Komisja Edukacji Narodowej". 15.05 i 23.15 Politechnika TV I roku. Fizyka. 16.10 Program dnia. 16.15 TV Kurier Białostocki. 16.30 Dziennik. 16.45 XXIV Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XIII etapu na trasie dookoła Liberca. 17.30 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 18.15 „Rybacy z Rewy". 18.45 „Gęśle z Jawora" („Śladami twórców ludowych"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Noc po premierze" — film fab. NRF. 21.35 „Refleksje". 22.05 Dziennik. 22.20 Kronika Wyścigu Pokoju. 22.40 Sprawozdanie z międzynarodowego turnieju koszykówki Polska — Rumunia.

**Piątek, 21 maja**

8.20 „Noc po premierze" — film fab. NRF. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „Jak zbudować mikrosamochód". 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Radny". 14.20 Fizyka dla nauczycieli: „Zasady dynamiki Newtona ze stanowiska układów odniesienia" cz. III. 14.50 i 23.10 Politechnika TV I roku. Fizyka. 15.55 Program dnia. 16.00 TV Kurier Mazowiecki. 16.15 Dziennik. 16.30 XXIV Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XIV etapu na trasie Liberec — Praha (zakończenie Wyścigu). 17.45 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 18.15 „Dziewiarstwo ale jakie?" 18.45 „Piosenki Andrzeja Kuryłły". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Portfel" — nowela film. TVP. 20.30 „Kraj". 21.10 Teatr TV na świecie: „Barometr" — widowisko TV Czechosłowackiej. 22.20 Dziennik. 22.35 Kronika z zakończenia Wyścigu Pokoju.

**Sobota, 22 maja**

8.15 „Romans z nieznajomym" — film fab. USA. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — „Sprawy 15-latków". 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Rozwój przemysłu w Polsce Ludowej". 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „Dziś i jutro polskiego rolnictwa". 15.15 Program dnia. 15.20 TV Kurs Rolniczy: „Mechanizacja zbioru siana". 15.55 Program tygodnia. 16.15 „Oferty". 16.30 Dziennik. 16.40 Teatr Młodego Widza: R. Liskowacki — „Rzut karny". 17.20 „Tele-Echo". 18.15 Sprawozdanie z międzynarodowych zawodów na żużlu Polska — Anglia. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Impreza rozrywkowa z okazji zakończenia Wyścigu Pokoju (Praha). 21.20 Dziennik. 21.40 „Romans z nieznajomym" — film fab. USA. 23.15 Program rozrywkowy „Artyści areny".




**Piątek, 14 maja**

15.00 Program dnia. 15.25 Nowiny. 17.00 Koncert świąteczny z Tbilisi. 19.00 Reportaż z uroczystości poświęconych 50-leciu Gruzji. 20.30 Mistrzostwa Europy w gimnastyce (mężczyźni).

**Sobota, 15 maja**

7.30 Nowiny. 7.45 Koncert muzyki klasycznej. 8.15 Bajka dla dzieci. 8.45 Przegląd międzynarodowy. 9.00 Szkatułka muzyczna. 9.15 Społeczeństwo i prawo. 9.50 Reportaż z fabryki budowy maszyn w Mińsku. 10.10 Tańczcie z nami. 10.40 Rajd TV. 11.00 Program poświęcony rocznicy podpisania Układu Warszawskiego. 12.10 TV film fab. 13.00 Uniwersytet ludowy. 14.30 Mistrzostwa Europy w gimnastyce (mężczyźni). 16.00 Nowiny. 16.05 Pięciolatka. 16.25 W świecie zwierząt. 17.30 Konkurs TV. 18.40 Czas. 19.00 Koncert z Kolumnowej Sali Zw. Zaw. 20.00 Film fab. 21.00 Karuzela. 21.45 Nowiny.

**Niedziela, 16 maja**

7.00 Program dnia. 7.15 Nowiny. 8.00 Kiosk muzyczny. 8.30 Reportaż z wystawy malarskiej. 9.00 Dla uczniów. 10.45 Reportaż z fabryki. 11.10 Białe i czarne. 11.30 TV konkurs śpiewaczy. 12.30 Dla żołnierzy. 13.00 Pięciolatka. 13.15 Mistrzostwa Europy w gimnastyce (mężczyźni). 15.00 Płomień atomowy. Film. 16.00 Nowiny. 16.05 Włodarze bez masek. 16.30 Klub filmowy. 17.30 Wieczór twórczy Moskiewskiego Teatru Satyry. 18.50 Czas. 19.20 c.d. wieczoru twórczego Moskiewskiego Teatru satyry. 20.35 Koncert estradowy. 21.05 Nowiny.



 

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ГРОДНА




Вечарам на апошнім прыпынку ля бавaўнянага камбіната Салей сеў у аўтобус.

Здавалася, гэты дзень выпаў больш клапатлівы ад іншых. Хаця, калі ўдумацца, кожны з іх нечым адрозніваўся ад доўгага шэрагу рабочых будняў і ў той жа час быў падобны на іншыя. Пасля восьмай гадзіны раніцы Іван Сямёнавіч чуць улез у перапоўнены аўтобус на Гагарына. Добра, ззаду папхнулі, а так бы застаўся. А ўжо каму, а брыгадзіру спазняцца на аб'ект не выпадае. Зрэшты, каму выпадае? У гэтую пахмурную раніцу ўсе яго хлопцы колькасцю ў 27 чалавек прыбылі на час. Даўно ўжо ў брыгадзе перавяліся выпадкі, каб хто-небудзь спазняўся — праца чакаць не любіць. На пяціхвілінутцы ў падсобцы ў час кароткага перакуру размеркаваў усіх па ўчастках. Як заўсёды, асабліва прыйшлося паклапаціцца аб маладых: Стасіка Стацкевіча вызначыў у напарнікі да вопытнага Малчанава, Віцьку Шыдлоўскага — да Марчука. Хлопцы нядаўна са школы, у многім яшчэ зялёныя, бракуе рабочага вопыту. А ў комплекснай брыгадзе кожны абавязаны ўмець усё, за выключэннем хіба аддзелкі. Вучацца. Пройдзе не шмат часу, пастараюцца ў рабоце — добрыя майстры будуць. Не горшыя за таго ж Малчанава ці Балабановіча.

Пачалі гэты год крыху няўдачна — брыгаду раскінулі па трох аб'ектах, спрабуй ахапі ўсё адразу: завод тэхаснашчэння, корпус тэлестудыі, склад аўсетнага друку. Самым цяжкім аказаўся менавіта гэты склад: восенню ўсе падыходы да яго заліло вадой, нават трактарам немагчыма было прабіцца. А аб'ект тэрмінова трэба было падрыхтаваць для здачы мантажнікам. Намучыліся з ім нямала. Нямала там прыйшлося папацець і самому брыгадзіру — днямі не вылазіў з работы ды гумовых ботаў. Брыгадзір то брыгадзір, але часамі даводзіцца рабіць, як найгоршаму рабацягу. Што ж, такая пасада. У гэты дзень усё ішло добра, пакуль не выявілася, што да канца змены не хопіць бетону. Учора застаўся, дыспетчары накіравалі яго суседзям, а сёння вось не хапіла. Дрэнна, калі лішкі, яшчэ горш недастача. Зразумела, усё сплanіравана, сеткавы графік — выдатная справа, але ўсё назаўсёды прадугледзець немагчыма. А прастой — вялікі ці малы — самае горшае на будове. Ён рэжа прадукцыйнасць, развязвае дысцыпліну, зрывае ўсе тэрміны, нарэшце б'е па кішэні рабочых. Добра сёння: пазваніў — дыспетчарская служба зарэагавала безадказна, нечыя лішкі бетону былі накіраваны на склад паперы. Выручылі. Пасля нядоўгага перапынку праца закіпела з падвойным тэмпам, плечы не высыхалі да самага абеду.

Абедалі наспех у бытоўцы — цесна, без асаблівых выгод, але з прыемнасцю. Раней іншых справіўшыся з узятымі з дому бутэрбродамі, брыгадзір выцягнуў з кішэні газету. Марчук з Адашкевічам, папыхваючы папяросамі, адразу ж падсунуліся бліжэй — што, моў, новага здарылася на свеце? Новага было нямала, але будаўнікоў асабліва займаў драматычны лёс Анджэлы Дэвіс. Засудзяць ці пабаяцца? Спачатку як бы для траіх прачытаў карэспандэнцыю з Нью-Йорка, але ўбачыўшы, як уважліва слухаюць і астатнія, павысіў голас. Анджэла змагаецца — гэта спадабалася ўсім, маладзец Анджэла. Яна пераможа.


*Гродна. Гасцініца «Нёман».* *Фота: Я. Краўчанка*

Пасля перакуру наспех абмеркавалі загрузку на рабочых месцах. Усюды работа ішла роўна, але на складзе прыбыло бетону — шкода было яго пакідаць няпоўнасцю выкарыстаным. Чацвярых з тэлестудыі перавёў на склад паперы. Не вельмі любяць хлопцы адрывацца ад адной справы, ды прымацца за новую, але нічога не зробіш — часамі даводзіцца. Без манеўру людзьмі, тэхсродкамі і матэрыяламі на будове не абысціся. У гэтым адзін з дадатковых рэзерваў аператыўнасці, а значыць, і прадукцыйнасць. Зрэшты, цяпер ужо лягчэй, ёсць дзе разгарнуцца, аб'екты растуць. Цяжэй у пачатку будовы, калі адкрыта толькі яма, у якую трэба залажыць фундамент. Здарыўся б перабой з матэрыялам — не пазбегнуць прастою. Акрамя фундаменту, больш тут рабіць няма чаго, з яго ж усё пачынаецца.

Аўтобус манатонна калыхацца з боку на бок. На заднім сядзенні крыху трасе, але наогул добра і спакойна. Цёпла, нават занадта. Ля ўваходу шчыльны натоўп — не праціснуцца. Але тут спакайней.

Шкада, пачало падводзіць надвор'е. Раскіслі пад'язныя дарогі, снег, гразка. Капрызы зімы. А тут, як на злосць, — складаны заглыблены фундамент адміністрацыйнага корпуса тэхаснашчэння, — з усіх шчылін льецца вада. Хутчэй бы справіцца з тэлестудыяй, усіх бы хлопцаў сабраць у адно месца. Сёння ў канцы працы Малчанаў гаварыў як раз аб гэтым. Аб гэтым жа вось каторы ўжо дзень заклапочана думаў брыгадзір. Але як-небудзь. Чысла дзесятага брыгада будзе ўся ў зборы, на адным аб'екце. Вось тады для брыгадзіра пачнецца самае цікавае. Сумесна яны пакажуць, на што яны здольныя. Хлопцы ўмелыя, старанныя; старыя ўсе вопытныя, спрытныя. Ды і моладзь не падвядзе.

На прыпынку ля мосту ў аўтобус улез знаёмы чалавек — ветліва кіўнуў Івану Сямёнавічу. І тут брыгадзір успомніў — сёння ж пятніца. У пятніцу яны намецілі сабраць савет пры домаўпраўленні — разгледзець тэрміны і парадак рамонту жылля. У пачатку тыдня хадзіў на аб'екты — нічога не скажаш, зацягнулі рамонт па вуліцах Свярдлова, Савецкай. Жыхары скардзяцца. Прыдзецца разабрацца. Нехта вінаваты, зразумела, у нечым трэба дапамагчы, хаця б параіць.

І тут яго думкі пайшлі ў другім напрамку, не маючым непасрэдных адносін да яго брыгады. Сёння трэба зайсці ў домаўпраўленне, а заўтра — пасяджэнне парткома трэста, членам якога ён з'яўляецца. У мінулым тыдні ў двух месцах выступаў перад калектывамі як дэпутат горсавета — рабіў справаздачу аб сваёй дэпутацкай працы. У панядзелак да позніх гадзін прасядзелі на пасяджэнні камісіі горсавета па будаўніцтву. Нямала і яшчэ розных нагрузак і даручэнняў выконвае брыгадзір Салей. Кожны раз шкада адрывацца ад брыгады, ад жывых творчых спраў на будове, клопатамі аб якіх выпаўняецца яго галава вось ужо паўтара дзесятка год. Але трэба. Усюды неадкладныя справы, клопаты. І разам з тым, хаця часамі клапатліва, але радасна ўсведамляць, што твой удзел патрэбны людзям, што і ты ў нечым можаш дапамагчы агульнай справе.

Аўтобус едзе паволі, як звычайна ў канцы дня, падоўгу затрымліваючыся на прыпынках — пакуль многія выйдуць, а яшчэ больш — увойдуць. І Салей думаў. Аднак думкі яго аб прывычнай яму справе былі светлымі. Клопаты не лічыліся, да іх брыгадзіру не прывыкаць, як і да яго цяжкай, клапатлівай, але такой неабходнай для людзей працы, а адна думка, схаваная ім глыбей, несла толькі светлую радасць — думка аб паездцы ў Маскву. У ліку самых дастойных абласная партканферэнцыя выбрала брыгадзіра комплекснай будаўлянай брыгады І. С. Салея дэлегатам на XXIV з'езд КПСС.

Гэта выбранне было для яго нават нечаканым і крыху ўсхвалявала брыгадзіра, але, падумаўшы, ён супакоіўся. Што ж, усё нармальна. КПСС — авангард рабочага класа, а ён адзін з яго прадстаўнікоў. І, напэўна, перадавых прадстаўнікоў. І сапраўды, колькі яго брыгада пабудавала ў Гродне! Лічы паўгорада. Пройдзе нейкі час, яго не будзе на гэтай зямлі, можа, не будзе ніводнага з яго будаўнікоў, але пабудаванае імі будзе яшчэ доўгі час стаяць на радасць людзям.

А цяжкасці... што ж, цяжкасці забываюцца.

«Ага, не забыцца заўтра раніцай заказаць паўкубаметра апалубкі для Балабановіча», — паспешліва думаў Салей. Аўтобус павярнуў на Гагарына. тут брыгадзір жыў. Трэба было яшчэ памыцца, пераапрануцца, наспех перакусіць і брацца за іншыя справы. За справы грамадскія.

В. БЫКАЎ

## Наш Каляндар

16 МАЯ — 60 ГОД З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ (1911) БЕЛАРУСКАГА ПАЭТА І ДРАМАТУРГА В. ВІТКІ.

Васіль Вітка (Цімох Васільевіч Крысько) нарадзіўся ў вёсцы Еўлічы Слуцкага раёна Мінскай вобласці ў сям'і беззямельнага селяніна. Скончыў Слуцкую прафтэхшколу і паехаў на адну з буйнейшых тады новабудоўляў рэспублікі — Бабруйскі лесакамбінат. Пасля супрацоўнічаў у рэдакцыях многіх выданняў — ад заводскай шматтыражкі да рэспубліканскіх газет і часопісаў. Да пачатку вайны быў у Беластоку сакратаром аддзялення Саюза пісьменнікаў і карэспандэнтам «Литературной газеты» па заходніх абласцях БССР. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны працаваў у рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь», пасля ў ЦК КПБ рэдактарам масавых выданняў для акупіраваных раёнаў, супрацоўнічаў у сатырычным часопісе «Партызанская дубінка» і газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну», у газеце «Комсомольская правда». Пасля вайны працаваў у рэдакцыях часопіса «Беларусь» і «Літаратура і мастацтва».

З дня ўтварэння ў рэспубліцы ў 1957 годзе часопіса «Вясёлка» з'яўляецца яго галоўным рэдактарам. Член прэзідыума Саюза пісьменнікаў БССР Узнагароджаны двума ордэнамі «Знак Пашаны» і медалямі. Член КПСС.

Першыя вершы былі надрукаваны ў 1928 г. у штомесячніку «Вясна» — літаратурным дадатку да бабруйскай акруговай газеты «Камуніст». Першая кніга паэзіі «Гартаванне» выйшла ў Маскве ў час вайны (1944). Пасля былі выдадзены зборнікі лірыкі: «Поўдзень» (1946), «Вернасць» (1953) і інш., а таксама зборнікі вершаў для дзяцей. Ім напісаны п'есы «Прамень будучыні», якая на конкурсе да 30-годдзя Вялікага Кастрычніка адзначана рэспубліканскай прэміяй, і «Шчасце паэта».

*В. Вітка*

*РУЖА І ШТЫК*

*Перасохла рэчышча,*
*Дзе крыніца бегла.*
*Дзе стаяла печышча,*
*Учарнела цэгла.*

*А мясціна бою*
*Зарасла травою,*
*Лебядою сіваю,*
*Стрыклівай крапівою.*

*Толькі там, дзе ўпаў ты,*
*Каля самай хаты,*
*Дзе твой след крывавы,*
*Не растуць там травы.*

*Помнік твой увіты*
*Непадкупнай ласкай,*
*Штык у гліну ўбіты,*
*А паблізу — каска.*

*Беражэ ўспаміны*
*Пра цябе, мой дружа,*
*Куст густой шыпшыны*
*Ўвесь у буйных ружах.*

*Хай хто дакранецца*
*Да яго рукою —*
*Упадзе на сэрца*
*Кроў жывой расою.*

*Прарасло жалеза*
*Вострымі шыпамі,*
*Будзе вечна свежай*
*Аб салдаце памяць.*

## «РУХ» У МАІ І ЗАЎСЁДЫ

Беластоцкі аддзел дзяржаўнага прадпрыемства прэсы і кніжкі «Рух» — гэта вялікі патэнтат у культурна-асветнай працы. Падкрэсліць хочам асаблівасць гэтай працы: большасць яе канцэнтруецца на вёсцы. «Рух» арганізаваў і вядзе на вёсцы 350 клубаў у адным толькі Беластоцкім ваяводстве. Сетка «рухаўскіх» клубаў пашыраецца. Вось у маі г.г. у днях асветы, кніжкі і прэсы будзе адкрыта ў Беластоцкім ваяводстве 10 новых клубаў. Між іншым, у Бельскім павеце — у Боцьках, у Сямяціцкім — у Тымянцы, у Сакольскім — у Паўночным Востраве.

У маі таксама адбываецца (частка ўжо адбылася) 15 кірмашоў кніжкі, прэсы, паштовак, рэпрадукцый польскага і сусветнага мастацтва.

«Рух» арганізуе аж 90 выставак прэсы і кніжкі. 10 выставак кніжкі арганізавала Людовая выдавецкая спулдзельня (LSW), якая традыцыйна супрацоўнічае з «Рухам». 10 выставак экспануецца ў найлепшых клубах «Руху», а як скончыцца май, яны стануцца ўласнасцю падручных бібліятэк у клубах.

«Рух» праводзіць у маі 30 аўтарскіх сустрэч, 15 сустрэч з журналістамі, 35 сустрэч з акцёрамі, 80 сустрэч з афіцэрамі і ветэранамі Войска Польскага, 150 лекцый на розныя тэмы.

Ад Ломжы ў маі пачнецца выстаўка 3,5 тысяч паштовак. Пасля Ломжы выстаўка павандруе ў іншыя паветы. Да лютага 1972 года яна абыйдзе ўсе паветы Беласточчыны.

І навасць: Беластоцкі аддзел «Руху» ў канцы мая арганізуе І агляд лялечных тэатраў, працуючых на вёсках. Гэтае свята лялечных тэатраў адбудзецца ў тэатры «Свершч» у Беластоку. Тады спаткаюцца аматары лялек з сапраўднымі артыстамі нашага папулярнага «Свершча». (вл)

## БЕЛАРУСКАЯ ПАЭЗІЯ Ў ЛЮБЛІНСКАЙ «КАМЭНЕ»

Люблінскі грамадска-культурны двухтыднёвік «Камэна» мае значныя заслугі ў папулярызацыі беларускай паэзіі сярод польскага грамадства. Бадай няма другога такога часопіса ў нашай краіне, у якім беларускія паэты былі б такімі частымі гасцьмі. Вось і нумар за 25 красавіка г.г. прыносіць цэлую падборку вершаў беларускіх паэтаў у перакладзе Казімежа Анджэя Яворскага, вядомага папулярызатара беларускай паэзіі ў Польшчы. Гэтым разам змешчаны новыя пераклады наступных паэтаў: Петруся Броўкі, Максіма Танка, Міхася Калачынскага, Кастуся Кірэенкі, Юрася Свіркі, Рыгора Барадуліна і Алеся Барскага. (рл)

## ЖАНЧЫНЫ З ГАРАДНЯН

Раней гурток вясковых гаспадынь у Гараднянах, Беластоцкага павета, не праяўляў вялікай актыўнасці. Праявіў яе затое ў пачатку гэтага года, калі гурток значна «памаладзеў» і папоўніўся. Жанчыны наладзілі супрацоўніцтва з мясцовым гуртком ЗМВ і з нагоды Міжнароднага дня жанчын арганізавалі супольнае мерапрыемства для ўсіх жанчын з вёскі. Будзе працягвацца супольны кулінарны курс для жанчын і мужчын (першы такога роду ў павеце). Апрача таго, жанчыны пасадзілі ў гэтым годзе многа сартоў малавядомай агародніны. У летні перыяд гараднянскія кабеты намераны арганізаваць у мясцовым клубе селяніна дзяцінец для ўсіх дзяцей у прадшкольным узросце. Варта дадаць, што пачынальнікамі шматлікіх мерапрыемстваў у гуртку КГВ з'яўляюцца перш за ўсё Ядвіга Шыманская (старшыня гуртка) і Яніна Садоўская (аграном). (яц)

18.

мец спатыкнуўся, ледзьве не паляцеў тварам у гразь, але ўтрымаўся і азірнуўся. Мабыць, убачыўшы аднаго даганятага, ён раптам зрабіў выпад насустрач, гатовы кінуцца на камандзіра роты.

Але тут паспеў я.

Вобмацкам запхнуўшы ў аўтамат новы дыск, я ва ўпор даў ім доўгую агнявую ў цемры чаргу. Немец прутка выгнуўся і разам асеў. Я ўзрадавана кінуўся далей, але тут жа выразна сцяміў, што паспяшаўся. Мы зарваліся. Паблізу ў прыцемках мільганула некалькі постацей, аднačасна ў трох кроках ад мяне штосьці імкліва ляпнула вобзем. Я не ўбачыў, што гэта было, я адчуў толькі ўдар, тут жа ў твар пляснула гразёй, і тады я зразумеў: граната! Яна падскочыла і матлянулася дзесь пад самыя мае ногі. З незвычайнай выразнасцю, як гэта бывае толькі за імгненне да пагібелі, я адчуў: канец. Спалох штурхануў мяне ад гэтага месца, ды так апантана, што ногі не ўтрымалі гэтага выратоўчага штуршка і, я цераз голаў пакаціўся па мокрай зямлі.

Выбуху я чамусь не пачуў, — адчуў толькі, як люта дзеранула на спіне палатку і нібы зубілам звонка дзёўбнула ў каску. Адно вуха адразу аглухла, шчака здранцвела, на нейкі час я перастаў адчуваць сябе і, калі падбег Ананьеў, як дурань, не мог зразумець, што здарылася і што яму ад мяне трэба. Пакуль я няўцямна курчыўся на зямлі, камроты тузаў мяне за палатку, затым нешта пракрычаў у твар — я адчуў толькі яго зморанае гарачае дыханне. Тут жа сам паспрабаваў узгрэбціся на калені і застагнаў ад пякучага болю ў плячы.

Ананьеў ускочыў, некуды пабег у цемру, затым зноў апынуўся побач, камусь замахаў рукой. І раптам, нібы вынырнуўшы з-пад вады, я пачуў яго незразумела чужы і дужа далёкі голас:

— Стой! Рота, стой! Назад! У траншэю назад!

Тады я нібы ачнуўся ад гарачай задухі, зразумеў, што жывы, і пачаў марудна ўставаць на ногі. Плячо пякотка мярцвела, рука аблівалася чымсьці гарачым, з рукава хуценька і часта закапала ў мокры дол.

Я чуў, як камандзір роты некага паклікаў, той неўзабаве падбег да мяне, падняў з долу аўтамат, паправіў на галаве каску. У гэты час я ўжо ўстаў і зрабіў са два крокі. Ногі мае былі цэлыя. Рану на плячы я сціснуў здаровай рукой, але з рукава ўсё капала — штораз то болей.

Баец падхапіў мяне пад паху здаровай рукі.

—Пастой, Васюкоў, перавязаць трэба.

Чуў я, здаецца, толькі адным вухам і па голасе пазнаў яго — то быў Лутохін з узвода Піліпенкі. Але я не хацеў тут спыняцца — непадалёк усё яшчэ трашчалі аўтаматы, і ўгары ва ўсіх кірунках дзігалі кулі. Ананьеў прапаў недзе, мусіць, з узводам Ваніна пабег далей, на другі схіл вышыні. Частка роты, аднак, асела тут, у траншэі, я трохі чуў галасы і ішоў туды. Лутохін зважліва падтрымліваў мяне. Вецер насіў у паветры мокрыя сняжынкі.

Мы саскочылі ў гразкую траншэю, у якой ужо гаспа-

20.

— Швыдэнька, парубкі. Ударяць міны — траншэя мамачкай будэ.

Ён ужо рыхтаваўся да абароны. Вядома, немцы маглі ўдарыць, але на тым флангзе ў Ваніна яшчэ ішла перастрэлка. Ці не варта было б памагчы? Праўда, камандзір роты, здаецца, аб тым не загадваў, а Піліпенка без загаду не меў завядзёнкі залішне выпінацца наперад.

Цвяткова мы знайшлі ля ўваходу ў бліндаж, які ён завешваў палаткай. Піліпенка гукнуў:

— Цвяткоў!

— Ну...

— Ось параніты.

— Хто? — затыкаючы ўгары канцы палаткі, абыякава запытаў Цвяткоў. Я азваўся. На санінструктара маё раненне, аднак, не зрабіла ніякага ўражання.

— Чакай. Зараз закончу — паглядзім.

— Багато ранэных? — запытаў старшына.

— Ерунда, тры чалавекі. Не лічачы Крывашыява.

— А што Крывашыяў?

— Гатоў — што! Перавязаў — толькі бінты папсаваў.

— Крывашыяў? — чагось не мог даўмецца Піліпенка.

— Ну. Чаго здзівіўся? Хіба ён ад куль заварожаны.

— Так він жэ так ірвався сюды! — прастадушна сказаў Піліпенка. — Турнэм, кажэ.

— Вось і турнулі. Сем куль у грудзі — не жартачкі. Ну, заходзьце...

— Зараза! — сказаў старшына і, раптам павярнуўшыся, хутка пашыбаваў назад да свайго ўзвода.

Я падлез пад палатку і апынуўся ў суцэльнай сырой цемры. Моцна смярдзела порахам, паленым рыззём, яшчэ нечым — чужым і агідным. Пад нагамі трапілася нейкая адзежына, я адкінуў яе нагой з праходу. За мной у бліндаж сунуўся Цвяткоў.

— Не можа да забітых прывыкнуць. Ведама ж, у АХЧ забітых не было. Але тут яму не АХЧ.

Цвяткоў меў на ўвазе нядаўнюю тылавую службу Піліпенкі і, мусіць, выклікаў мяне на размову пра старшыну, але я прамаўчаў. Дужа балела плячо, на боты з рукава капала кроў і я проста губляў трыванне: калі ж ён дабярэцца да мяне, гэты памочнік смерці? Цвяткоў між тым засвяціў запалку, агледзеўся. Пасля запаліў другую. Земляныя сцены ў бліндажы былі сырыя і голыя, ля ўваходу абрушыўся пласт глею і засыпаў кут. Насупраць ля сцяны валяўся нямецкі шынель, некалькі скамечаных коўдраў; раскіданыя карты свежымі плямамі бялелі на зямлі. Па другі бок ад уваходу ляжала напаўразбітая выбухам жоўтая скрынка ад боепрыпасаў — відаць, хтось з нашых сунуў сюды гранату. Над скрынкаю ў сцяне, аднак, аказалася зграбная маленькая палічка, на якую ў зямлянках звычайна ставяць свяцільнік. Цвяткоў з запалкаю ў руках нахіліўся, пашукаў і сапраўды знайшоў у доле скінутую выбухам плошку. Здзьмухнуўшы пясок, ён запаліў яе, і змрок у бліндажы трошкі рассеяўся.

ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

# ПЕРШЫЯ ВЫНІКІ ПЕРАПІСУ Ў СССР

Цэнтральнае статыстычнае ўпраўленне пры Савеце Міністраў СССР закончыла распрацоўку першай ступені асноўных вынікаў перапісу насельніцтва па полу, узросту, стану ў шлюбе і адукацыі, нацыянальнасці, мове і крыніцы сродкаў існавання.

Агульная колькасць наяўнага насельніцтва Савецкага Саюза на 15 студзеня 1970 года, паводле ўдакладненых даных, склала 241.720.134 чалавекі, у тым ліку 111.399.377 мужчын і 130.320.757 жанчын. Колькасць гарадскога насельніцтва склала 135.991.514 чалавек, сельскага — 105.728.620 чалавек.

За перыяд з 1959 па 1969 год гарадское насельніцтва павялічылася на 36 мільёнаў. Адбылося гэта за кошт натуральнага прыросту ў гарадах, які склаў за адзінаццаць гадоў 14,6 мільёна, за кошт пераўтварэння сельскіх пунктаў з насельніцтвам 5 мільёнаў чалавек у гарадскія і за кошт пераходу з вёскі ў горад больш як 16 мільёнаў сельскіх жыхароў. Пераход сельскага насельніцтва ў горад звязан са значным ростам прамысловасці і стаў магчымы дзякуючы ўзрослшаму ўзроўню механізацыі і прадукцыйнасці працы ў сацыялістычнай сельскай гаспадарцы.

Найбольшымі саюзнымі рэспублікамі па колькасці насельніцтва з'яўляецца РСФСР — 130.079 тыс. чалавек, Украінская ССР — 47.126 тыс. чалавек. Трэцяе і чацвертае месца ў Савецкім Саюзе па колькасці насельніцтва займае Грузінская ССР — 12.849 тыс. і Казахская ССР — 11.960 тыс. чалавек. У гэтых двух рэспубліках наглядаўся ўзрост насельніцтва за апошнія дзесяць год. Беларуская ССР знаходзіцца ў СССР на пятым месцы па колькасці насельніцтва і налічвае 9.002 тысячы чалавек.

Дзеці да 15 год у СССР складаюць 30,9%, дарослыя працаздольныя людзі — 54% і людзі старэйшыя — 15,1%.

Цікава выглядае розніца ў колькасці мужчын і жанчын. У агульнай катэгорыі людзей да 25 год на 1000 жанчын прыпадае каля 1040 мужчын. Ва ўзросце каля 30 гадоў колькасць мужчын на кожную тысячу жанчын змяншаецца і ўжо ў групе людзей каля 50 гадоў на 1000 жанчын прыпадае толькі 600 мужчын, а сярод сямідзесяцігадовых і старэй — менш 400. У параўнанні з 1959 годам розніца паміж колькасцю мужчын і жанчын пастунова скарачаецца. У папярэднім дзесяцігоддзі ва ўзросце да 43 гадоў жанчын было больш, а цяпер розніцы няма.

## АДУКАЦЫЯ

У дарэвалюцыйнай Расіі амаль тры чвэрці насельніцтва было непісьменным. Народы Крайняй Поўначы, Сярэдняй Азіі і іншых ускраін краіны былі амаль цалкам непісьменныя. Пры перапісе 1959 года 98,7% гарадскога насельніцтва і 98,2% сельскага насельніцтва ва ўзросце 9—49 гадоў былі пісьменнымі, гэта значыць, ужо тады была амаль ліквідавана розніца ў пісьменнасці гарадскога і сельскага насельніцтва. У 1970 годзе было ўлічана ўсяго толькі 170 тысяч непісьменных мужчын і 269 тысяч жанчын у гэтым узросце, пераважна з ліку асоб, якія не маюць магчымасці наведваць школу з прычыны фізічных недахопаў або хранічнай хваробы. Непісьменнасць ліквідавана ва ўсіх саюзных рэспубліках.

Ліквідацыя непісьменнасці суправаджалася значным ростам колькасці асоб, якія маюць вышэйшую і сярэднюю адукацыю. У 1959 годзе ў Савецкім Саюзе налічвалася 58.708 тыс. чалавек з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй, а ў 1970 — 95.046 тыс. чалавек. К канцу 1970 года колькасць людзей з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй у гарадах склала тры чвэрці працуючага насельніцтва, а ў вёсках — больш палавіны.

*(Працяг на стар. 7)*

КУТОК ГАСПАДЫНІ

# ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

## ФАРШ ДЛЯ БЛІНЧЫКАЎ

У мінулым нумары мы напісалі даволі многа пра распаўсюджаную патраву — блінчыкі, якія робяць па-рознаму, з рознага цеста, больш і менш здобныя. Сёння мы б хацелі расказаць аб фаршах, якімі іх начыняюць.

Трэба адразу адзначыць, што частка гаспадынь аддае перавагу блінчыкам салодкім (з джэмам, з тварагом, можна таксама рабіць іх з салодкай міндальнай ці арэхавай масай і г.д.), іншыя робяць часцей блінчыкі ў якасці дадаткаў да баршчу ці супа, або як самастойнае блюда з салатам.

## БЛІНЧЫКІ З ГРЫБАМІ І КАПУСТАЙ

На паўкілаграма кіслай капусты бярэм 4—5 сушаных грыбкоў. Грыбы, намочаныя ў вадзе яшчэ ў папярэдні дзень, варым у той жа вадзе, а калі яны стануць мяккія, вымаем іх з навару і дробна сячэм. Кіслую капусту, лёгка перапаласкаўшы, заліваем наварам з грыбоў і варым. Калі яна будзе мяккая, выкладаем яе на сіта (навару не выліваем), дробна сячэм, спалучаем з грыбамі, кладзем на патэльню з падсмажанай на тлушчы, дробна нарэзанай цыбулькай, дадаем соль і перац па смаку і смажым некалькі мінут, далііваючы крыху навару з капусты. Зняўшы патэльню з агню, дадаем у атрыманую масу рубленае крутое яечка, перамешваем. Фарш гатовы, можна накладаць яго на блінчыкі, закладаць берагі і заварочваць. Добра было б такія блінчыкі памачаць у збітае яечка, молатыя сухары і абсмажыць.

## БЛІНЧЫКІ З ПАШТЭТАМ

Дробна нарэзаную цыбулю тушым у тлушчы. Дадаем дакладна вымытыя і дробна нарэзаныя пячаркі (шампіньёны). На 10 бліноў трэба ўзяць іх грам 150 (15 дэкаў). Смажым грыбы на досыць вялікім агні, каб выпарылася з іх празмерная вільгаць. Пасля гэтага дадаем грам 300 (30 дэкаў) любога паштэту, добра расціраючы яго відэльцам, прыпраўляем яго соллю, перцам і яшчэ хвіліну смажым. Фаршам начыняем блінчыкі і абсмажваем паводле папярэдняга рэцэпту.

## БЛІНЧЫКІ З ПЕНКАЙ

На фарш неабходна ўзяць 4 бялкі, некалькі лыжак кіславатага, не надта рэдкага джэму, крыху сцертай на тарцы лімоннай скуркі, калі трэба, 1—2 лыжкі цукру. Гэта была б прапорцыя на 10—12 бісквітных блінчыкаў.

Бялкі збіць, каб атрымалася цвёрдая пена. Не спыняючы збіваць бялкі, даваць пакрыху джэм і лімонную скурку, а калі маса атрымліваецца занадта кіслая, і цукар. Масу накладаць тонкім пластом на блінчыкі, лёгка скручваць блінчыкі і пасыпаць зверху цукровай пудрай з ванілінам.

*Гаспадыня*

Ч. АМОРТ

ЗА КУЛІСАМІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# Тайна агента А-54

Пасля вайны Шарф паказваў: «Я атрымаў загад пераначаваць у кватэры Цюмеля. Вечарам я накіраваўся да яго ў Бржэнаў. Мы павячэралі з ім і яго жонкай і прагаварылі да поўначы. Пасля гэтага Цюмель і яго жонка пайшлі ў спальню, у той час, як я ўладкаваўся на ноч у пакоі насупраць. Я спаў побач з дзвярыма і мог чуць, калі б хто-небудзь пакінуў спальню. Аднак ноч прайшла спакойна. На наступны дзень саветнік Шульцэ, а таксама Абендшэн заявілі мне, што Цюмель прыкладна ў тры гадзіны пакінуў свой пакой праз акно. Я апраўдаўся, сказаў, што ніхто мяне не папярэдзіў аб такой магчымасці».

Гестапа яшчэ двойчы давала Цюмелю магчымасць выклікаць Маравека на сустрэчу. Другую з іх Цюмель прызначыў на 21 сакавіка. Але Абендшэн арыштаваў яго загадзя — 20 сакавіка 1942 года, і на гэты раз назаўсёды.

Маравек у той час быў вельмі заклапочан мерапрыемствамі гейдрыхаўскага рэжыму. Пры садзеянні Барташа ён сустрэўся з членамі другой групы парашутыстаў і выказаўся супраць замаху, які рыхтаваўся на Гейдрыха і мог паставіць пад пагрозу ўвесь рух Супраціўлення ў Чэхіі. Ён стаяў за разгортванне партызанскай барацьбы. Свае меркаванні з гэтай прычыны Маравек хацеў перадаць 22 сакавіка ў Лондан.

Аднак вечарам 21 сакавіка павінна была адбыцца сустрэча з Цюмелем, Маравек нават не падазраваў, што Цюмель арыштаван. Але, па звычцы, падпольшчык праявіў асцярожнасць. Наперад ён выслаў свайго «ад'ютанта» Рэхана, а сам схаваўся непадалёк.

Ледзь Рэхан наблізіўся да прызначанага месца, як на яго з усіх бакоў кінуліся гестапаўцы. Рэхан выхапіў зброю, спрабуючы абараніцца, уцячы, але быў схоплены. Маравек, які назіраў за ўсёй гэтай сцэнай, прыйшоў на дапамогу таварышу.

У дакладзе, накіраваным обергрупенфюрэру СС Франку, начальнік пражскага гестапа Ота Гешке так апісваў подзвіг Маравека:

«Прыкладна ў 19 гадзін 15 мінут, калі мае служачыя ўжо вялі арыштаванага (Рэхена), паявіўся Маравек. Убачыўшы, што яго сувязны ўжо ўзяты, ён пачаў страляць. Нашы служачыя адказалі на агонь. Маравек быў ранены ў лытку і сцягно і спрабаваў уцячы.

У 19 гадзін 19 мінут, калі Маравек быў акружаны і не мог ні на што спадзявацца, ён застрэліўся. Мае служачыя не маглі ўтрымаць яго ад гэтага. За кароткі час Маравек паспеў зрабіць пяцьдзесят выстралаў. Пры вобыску цела на ім былі знойдзены два пісталеты калібрам у дзевяць міліметраў і сем запасных магазінаў...»

Перакладчык Шалупскі пазней паказваў, што гестапавец Флейшэр выхапіў у мёртвага з рук пісталет і ўсе застаўшыеся ў ім патроны выпусціў яму ў патыліцу... Твар Маравека быў пры гэтым так знявечаны, што гестапаўцы змаглі потым дакладна ўстанавіць асобу забітага толькі па тым, што ў Маравека не было аднаго пальца.

*(Заканчэнне праз тыдзень)*

# ТРЫБУНА чытачоў

(Працяг са стар. 6)

## ПЕРШЫЯ ВЫНІКІ ПЕРАПІСУ Ў СССР

Сярод саюзных рэспублік найбольш адукаваных людзей на кожную тысячу працуючых прыпадае ў Грузіі — 711 чалавек, а найменш — у Літве — 496 чал.

### НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЬ

Пры перапісе нацыянальнасць і мова запісваліся на аснове ўласных заяў перапісваемых. Нацыянальнасць дзяцей запісвалася па заявах бацькоў. Найбольшыя нацыянальныя групы ў СССР: рускія — 129 мільёнаў і украінцы — 40,7 мільёна чалавек. Далей: узбекі — 9,1 мільёна і беларусы — 9 мільёнаў.

Наогул у Савецкім Саюзе налічваецца 23 нацыянальнасці з колькасцю насельніцтва больш аднаго мільёна і 47 нацыянальнасцей з колькасцю насельніцтва, перавышаючай 100 тысяч.

Абсалютна пераважаючая частка жыхароў СССР лічыць мову сваёй нацыянальнай групы сваёй роднай мовай. Як выключэнне з гэтага можна назваць толькі некалькі нацыянальных груп. Сярод яўрэяў сваю мову называюць роднай толькі 17,7%, сярод палякаў — 32,5%, сярод іранцаў — 36,9% і сярод чэхаў — 42,9%. Сярод беларусаў 80,6% назвалі сваёй роднай мовай беларускую. У параўнанні з папярэднім дзесяцігоддзем лічба гэтая зменшылася на 3,6%.

Дадзеныя аб размеркаванні насельніцтва па крыніцах сродкаў існавання і іншыя дадзеныя будуць апублікаваны пасля распрацоўкі другой чаргі асноўных вынікаў перапісу. (яч)

### ПАЛЯВЫЯ РАБОТЫ

Настала гарачая пара на вёсцы. Сяляне пачалі палявыя работы. У Крывяцічах (Бельскі павет) гаспадары выйшлі на поле раней, як у мінулым годзе. Яны прыступілі да сяўбы аўса і ячменю кваліфікаваным насеннем, якое атрымалі ў ГС-е ў Орлі. Зараз ідзе падрыхтоўка да пасадкі бульбы, якая будзе закончана ў першай палове мая.

*Ваня Кірызюк, Крывяцічы*

### МІХАЛОВА АДНАЎЛЯЕЦЦА

Пры народнай уладзе наша маленькае мястэчка Міхалова значна аднавілася. Пабудавана тут шмат жылых дамоў, пачатковая школа і агульнаадукацыйны ліцэй, школа механізацыі сельскай гаспадаркі, тэкстыльная фабрыка, дом культуры, таваровы дом, малачарня, пякарня, агранамоўка, шмат крам, маставых і хаднікоў. Зараз Міхалова прыгожае мястэчка.

*К. Л., Міхалова.*

### УЖО ПРАЖЫЛА 100 ГОД

Марыя Шэшка з Беластока нарадзілася ў 1870 годзе. Нядаўна распачала яна 102 го жыцця. Жыве са сваім праўнукам Ёзікам. Яна яшчэ адчувае сябе добра. Сабе і Ёзіку рыхтуе абеды і з'яўляецца гаспадыняй хаты. Вось гэта здароўе! Яна прынамсі пажыла на свеце і помніць многа яго сацыяльных, культурных і тэхнічных перамен. (мс)

### РАЗБУДОВА МАЙСТЭРНІ

На Бельшчыне даволі хутка павялічваецца колькасць сельскагаспадарчых машын. Для сельгасгурткоў раманту машыны бельскі ПОМ і яго філіялы ў Боцьках, Бранску і Орлі. Але найбольш рамантуюць іх у Бельску. У красавіку, маі і верасні найбольш прывозяць сюды машын да рамонту. ПОМ нават не спраўляецца тады з абавязкамі. А гэта толькі таму, што цесныя і замалыя майстэрні. ПОМ у мінулым годзе пачаў перарабляць «шопу» на майстэрні. Рамонт гэты хутка закончыцца і ПОМ будзе поўнасцю спраўны і ў месяцах рамонтнага піку. (сс)

### ПАТРЭБНЫ ЧЫГУНАЧНЫ ПРЫПЫНАК

У вёсцы Мора звыш ста гаспадароў. Многія даязджаюць на работу і ў школу ў Гайнаўку і Бельск. Таксама многа моладзі і жыхароў вёскі Крывяцічы ездзіць штодзённа ў Гайнаўку і Бельск. Бяда ў тым, што да чыгуначнага прыпынка Арлянка 4 км, а да прыпынка ў Старым Беразове 4,5 км. Сяляне Крывяціч і Мора задэкляравалі грамадскі чын, каб зрабіць прыпынак пры так званай «казарме», якая стаіць пры чыгунцы ў адлегласці 600 метраў ад сяла Мора і 1,5 км ад Крывяціч.

*К. В., Мора*

### БГКТ і ЛьЗС

18.IV.1971 года моладзь сяла Крывяцічы арганізавала вясёлую забаву ў мясцовай святліцы. Многа было моладзі з Міклашоў, Старога Корніна, Мора, Дубін Асочных і другіх вёсак. Арганізатарамі вечарыны былі члены гуртка БГКТ Толік Клін, Мікалай Будка і Аляксандр Клін.

У Крывяцічах добра дзейнічае гурток ЛьЗС. Налічвае ён 23 члены і пераважна ігрэ ў футбол. Многія з ЛьЗС-цаў належаць да гуртка БГКТ.

*Ваня Кірызюк, Крывяцічы*

### КУРЫНАЯ ФЕРМА

Многа год стаяў нявыкарыстаны паспулдзельчы будынак у Крывяцічах. У мінулым годзе Федзя Кірылюк з Шастакова адкрыў у ім курыную ферму. Гадоўля прыносіць яму добрыя даходы. Аб гэтым сведчыць нават тое, што Федзя Кірылюк купіў легкавую і грузавую машыны. Мяса з яго курынай фермы ідзе на экспарт.

*В. К., Шастакова*

### А НА ВЁСЦЫ НЕ СВЯТКУЮЦЬ

1-шы Мая, свята працоўных горада і вёскі. У горадзе 1-га Мая людзі святкуюць, а на вёсцы не святкуюць. Чаму так дзеецца? Пасля вайны, калі перасталі на Сакольшчыне дзейнічаць рэакцыйныя банды, вёска святкавала 1-га мая. Сяляне не йшлі да работы. На кожнай хаце вісеў тады сцяг чырвоны або бела-чырвоны, прыбіралі дамы і вуліцы. Арганізоўваліся першамайскія паходы ў сядзібах гмінных рад нарадовых, а нават у большых вёсках. А цяпер на сакольскай вёсцы не святкуюць Першамая, не вывешваюць сцягоў. Сцягі вывешваюць толькі школы і дзяржаўныя ўстановы. Можна пачуць на вёсцы, а нават у радах, што няма калі святкаваць, вясною многа працы. Гэта праўда, што працы многа. Але калі людзі на вёсцы маюць час святкаваць свята якога-небудзь цудатворца ці прарока, дык і ў дзень 1-га Мая маглі б не ісці да працы. Куды прыемней было б, каб у гэты дзень быў чутны спеў і музыка.

*С. А., Сакольскі павет*




*Дарагое Сэрцайка!*

Я вучуся ў сярэдняй школе. Вучуся добра. У нашай вёсцы ёсць многа моладзі: дзяўчат і хлопцаў. Часта мы збіраемся ўсе разам і дыскутуем аб розных справах. Але я найчасцей не прымаю ўдзелу ў размове і ў забавах, арганізаваных маімі сяброўкамі і сябрамі. Бо я не ведаю, як пачаць размову, а таксама, як весці сябе. Баюся, каб мяне не крытыкавалі. Таму звяртаюся да цябе, Сэрцайка, мо ты мне паможаш. Хацела б паступаць так, каб быць потым задаволенай, добра сябе адчуваць сярод моладзі і падабацца хлопцам.

*Іра з Гайнаўкі*

*Іра!* Часта мы атрымоўваем лісты з такім запытаннем: як пачаць размову, як навучыцца танцаваць, як весці сябе ў кампаніі дзяўчат і хлопцаў і т.д. На жаль, не ўсім прыходзіць гэта лёгка. Часта адны гавораць вельмі многа, (хоць бывае, не маюць замнога аб чым гаварыць), лёгка навязваюць знаёмства і т.п.; другія — ціхія, маларазмоўныя. Веру, што такім часта бывае прыкра, бо такіх людзей не вельмі любяць у кампаніі. Але тым не пераймайся, бо таму, хто многа гаворыць, часта здараюцца, як моладзь называе, «невыпалы», а неразмоўны пакуль штосьці скажа, заўсёды найперш падумае. Аднак варта навучыцца смеласці. Ты ж вучышся ў сярэдняй школе, маеш веды, пастарайся ў дыскусіях таксама прыняць удзел. Не бойся таго, што хтосьці цябе пакрытыкуе, высмяе, бо ж кожны мае свой погляд на такую ці іншую справу. Дык і ты павінна яго мець і ўмець яго бараніць. А аргументаў напэўна табе не забракне. Пастарайся толькі першы раз набраць смеласці, а потым пойдзе лёгка.

*Жадаю добрых поспехаў*
*Сэрцайка*

### ХОЦЬ СЯКЕРУ ВЕШАЙ

Час ад часу чуваць, што шкодзіць на здароўе не толькі курэнне, але і дым, у якім часта знаходзяцца і тыя, хто зусім не курыць. Былі таксама такія чуткі, што будзе забаронена курыць у некаторых установах. Пажаданым было б, каб вышла пастанова, забараняючая курыць у вясковых клубах. Вось, напрыклад, у Плёсках вечарам столькі накураць, што аж цёмна ад дыму, хоць «сякеру вешай». І копцяць папяросы, гуляюць у карты маладыя і старыя. Пабыўшы ў гэтым клубе нейкі час, выходзяць некаторыя, як п'яныя, так папяросны дым атручвае арганізм.

*Чытач з Плёсак*

### ХОЧУЦЬ ЛЮДЗІ РАННЯЙ БУЛЬБЫ

На Сакольшчыне няма ранняй бульбы. Гмінная спулдзельня, насенная цэнтраля і крухмальня кантрактуюць бульбу толькі познюю, такую як «эпоха», «флісак», «вышэнборская» і іншыя. Людзі атрымліваюць нават ад насеннай цэнтралі ў Саколцы пасадачны матэрыял. А вось ранняй бульбай няма каму заняцца. А нашы гаспадары хацелі б мець хоць нямнога яе, каб можна было ўжо капаць маладую бульбу ў ліпені. Калісьці ў нашых вёсках была бульба чырвоная (так яе называлі) або скараспелка, якую можна было капаць у канцы чэрвеня. Яна неяк звялася. Не маюць яе нашыя сяляне. І дрэнна, вельмі дрэнна. Бульба з'яўляецца падставовым харчавым прадуктам, а маладая бульба ў канцы чэрвеня, быццам яблыкі, смачная. Хто аб гэтым задбае? Здаецца, што гэта справа павінна цікавіць не толькі гаспадароў, але і аддзел сельскай гаспадаркі павятовай рады нарадовай у Саколцы.

*А. С., Саколка*

### МАРЫЯ ВІЛЬЧЭЎСКАЯ



Марыя Вільчэўская працуе ў краме агароднiцка-пчалярскай спулдзельні ў Гайнаўцы. Кожную вясну крама гэта, дзякуючы добрай волі прадаўшчыцы, адкрыта ад раніцы да вечара. Яна робіць гэта для людзей, якія ў гэты час купляюць насенне.

У краме заўсёды хапае насення агароднiны, а нават люцэрны, канюшыны, кармавых буракоў. Ёсць дастаткова і розных хімікаліяў да нішчэння пустазелля і раслінных шкоднікаў. У краме можна купіць таксама агароднiцкія і пчалярскія прылады. Можна тут купіць таксама насенне кветак, або кветкі, якія адразу можна садзіць у гародчыку.

На прылаўках крамы ляжаць брашуркі аб вырошчванні паасобных культур. Людзі, якія наведваюць краму, заўсёды атрымаюць тут сардэчную параду. Марыю Вільчэўскую ў веснавы перыяд часта можна спаткаць таксама на кірмашы. Прадае яна там фруктовыя дрэўцы — яблыні, грушы, слівы, вішні, агрэст, чорныя і чырвоныя парэчкі.

*Віталіс Назарук, Гайнаўка*

### АГАРОДНІЦТВА

10 год таму назад на Гайнаўшчыне агароднiцтва не было распаўсюджана. Прапагандаваннем яго заняліся школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі і калектывы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Кожны год гэтыя групы людзей у паасобных вёсках закладалі доследныя палеткі з мала вядомымі культурамі і папулярызавалі такія расліны, як пора, салера, рабарбар, шпінак, пятрушка і шэраг іншых. Справамі гэтымі заняліся таксама гурткі вясковых гаспадынь. Дзякуючы дапамозе сельскагаспадарчых гурткоў, якія з фонду развіцця сельскай гаспадаркі закупілі вокны для інспектаў, члены гурткоў вясковых гаспадынь пачалі вырошчваць ранню капусту, памідоры і іншую агароднiну. (Н. В.)

### НА ГАЙНАЎСКАЙ СЦЭНЕ

Нядаўна акцёры тэатра імя Аляксандра Вянгеркі з Беластока выступалі ў Гайнаўцы ў Доме культуры «Гурнік» з пастаноўкаю «Парады». На гэтае прадстаўленне ездзілі таксама вучні беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя з Бельска.

*Люба Ярашэвіч, беларускі ліцэй у Гайнаўцы*

### СЕСІЯ ГРН

19 красавіка г.г. адбылася сесія ГРН у Старым Корніне. На сесію, апрача радных, прыбылі прадстаўнікі павятовых улад: сакратар ППРН у Гайнаўцы Мікалай Гаўрылюк, кіраўнік аддзела ўнутраных спраў тав. Канстанцін Бяляўскі і інструктар КП ПАРП тав. Францішак Маліноўскі.

Сесія была прысвечана развіццю сацыяльна-эканамічнага і культурнага жыцця асяроддзя з улікам ролі моладзі ў фарміраванні ўзнікаючых перамен на вёсцы. Даклад на гэтую тэму прачытаў сакратар ГРН Вася Кудэрскі. Затым старшыня ГРН Янка Гаўрылюк прадставіў праект пастановы развіцця сацыяльна-эканамічнага і культурнага жыцця на тэрыторыі нашай грамады ў гадах 1971—75. Пасля дыскусіі радныя прынялі пастанову з нанесенымі папраўкамі. Шкада аднак, што на сесіі не было моладзі, а запрашэнні былі высланы да 40 асоб. Сесія канкрэтна датычыла моладзі, яе культурнага жыцця ў паасобных вёсках грамады.

*Васіль Сегень, Стары Корнін*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**

„Zabawa w muzeum" (węgierski), 18—19. „Po wielkiej burzy" (szwedzki), 20—21. „Ucieczka w kajdanach" (USA), 22—23.

**НАРАЎКА**

„Co wieczór o 11-ej" (radz.), „Nie smuć się" (radz.), 19—23.

**НАРВА**

„Banda Asa Kier" (radz.), „Mąż swojej żony" (polski), 19—23.

**ЧЫЖЫ**

„Siedemnasty równoleżnik" (franc.), „Uzurpatorzy" (węgierski), 19—23.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**

„Nikt nie rodzi się żołnierzem" (radz.), „Siódmy rok miłości" (NRD), 19—23.

**АРЭШКАВА**

„Dwaj panowie bez parasola" (rumuński), „Rozbójnicy sycylijscy" (włoski), 19—23.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**

„Sami swoi" (polski), „Wyspa na lądzie" (węgierski), 19—23.

**ОРЛЯ**

„Topkapi" (USA). „Kobieta wąż" (angl.), 19—23.

**РАЙСК**

„Lecą żurawie" (radz.), „Pokój przychodzącemu na świat" (radz.), 19—23.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**

„Skarb bizantyjskiego kupca" (czeski), 18—19. „Przystanek — komisariat" (węgierski), 20—21. „100 karabinów" (USA), 22—23.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**

„Lenin — fakty i wspomnienia" (radz.), 18—19. „Panowie z kompleksami" (włoski), 20—21. „Hrabia Cosel" (polski), 22—23.

**ЯНАЎ**

„Nieśmiertelni Flip i Flap" (USA), 19—23.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**

„Ostatnie wakacje" (radz.), 18—19. „Nad jeziorem" (radz.), 20—21. „Pułapka" (polski), 22—23.

**МЕЛЬНІК**

„Samolot odlatuje o 9-ej" (radziecki), 18—19. „Mój pies Wulkan" (radz.), 20—21. „100 karabinów" (USA), 22—23.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**

„Odraza" (węgierski), 18—19. „Samotna" radz.), 20—21. „Pogromca zwierząt" (rumuński), 22—23.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**

„Lucia" (kubański), „Pippi" (szwedzki), 19—23.

**НОВЫ ДВОР**

„Stopień ryzyka" (radziecki), „Toast" (polski), 19—23.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7216 E-3

# АГЕНЦТВА АБС




## ВЯРБУЕМ АГЕНТАЎ

Наша свята — Дні кніжкі і друку — у разгары. А кожнае свята патрабуе чыну. Грамадскага, вядома. І добра — новага. Новыя ініцыятывы цэняцца найбольш. А мы хочам, каб нас ацанілі высока. Як найвышэй! Таму і чын, які мы падымаем у свой гонар, нештодзённы: адкрываем агенцтва АБС.

Чытачы даўно звярнулі нам увагу: усе газеты базуюць на агенцыйных матэрыялах, а вы кормiце нас толькі сваімі. Справядлівая крытыка. Прызнаем і абяцаем пакончыць з старымі спосабамі. І ў нас будуць агенцыйныя матэрыялы. Мала — агенцыйныя, мы ж адкрываем уласнае агенцтва! Не хвалячыся, як кажуць спрактыкаваныя аратары, якая іншая газета ў краіне мае ўласнае агенцтва? Мы гэтакай не ведаем.

Яшчэ просім звярнуць увагу на характар агенцтва. У цэнтры не будзе ніводнага штату, нават палавінкі. Працаваць яно будзе на самых чыстых грамадскіх пачатках. А гэта вы дзе-небудзь бачылі?

Вы бадай ужо звярнулі ўвагу на незвычайна простую арганізацыйную структуру нашага агенцтва. Па скромнасці не будзем яе называць геніяльнай, але, прызнаеце, яна выключная. Інфармацыя ракой паплыве ў цэнтр. Мы ў гэтым упэўнены.

Але што гэта за агенцтва без агентаў. Калі нешта рабіць, дык салідна. Таму аб'яўляем вярбоўку ў агенты ААБС.

Хто можа быць нашым агентам? Толькі чалавек з пагодным характарам (панурых не прымаем), чалавек з дарам назірання (павінен у сур'ёзным бачыць смешнае), чалавек з аналітычным розумам (павінен разбірацца каго можна крытыкаваць). Адным словам, больш шансаў чытачоў «Ніўкі» адпавядае гэтым патрабаванням.

Што наш агент павінен рабіць? Дасылаць нам смешныя факты. Гэта яго асноўная місія. Аналізам фактаў будзе займацца цэнтр. Больш дасціпныя агенты могуць дасылаць уласныя меркаванні. Дазваляем і паясняем правілы гульні: замнога не фантазіраваць, гэта вам не справаздачы знізу ўверх, агенцтва АБС найбольш цэніць праўдзівую інфармацыю.

Амаль кожны з вас можа быць агентам ААБС!

За работу!



*— Эх, Фрэд, ты зусім страціў прафесіянальны нюх. Ужо блытаеш сейфы з халадзільнікамі...*

# НІЎКА



*— Не бойцеся: паводле Брэма, яна не ядавітая!*

## ЗЯЦЬ І ЦЕШЧА

Шмат розных дарог
У жыцці, канешне...
Як зяць на парог,
Цешча — за яешню.

Зяць — бутэльку на стол,
А закуску — цешча.
А чаму ж навакол
Языкамі плешчуць,

Што цешча — змяя,
Што не любіць зяця.
А вось цешча мая
Не такая, браце.

— Ну, садзіся, зяцёк,
Родны мой, у покуць.
Вось вяндлінка, мядок,
Усяго ў нас хопіць.

— Гавары, як жа там
Маецца дачушка.
І чаму не піша нам
Унучка-весялушка.

Напаўняе мне зноў
Цешча шчыра шклянку.
Размаўляць я гатоў
З цешчаю да ранку.

Пра жонку сваю,
Пра маю Алёнку.
А цешчы хвалю,
Зразумела, жонку...

Я цешчу заўжды
Дужа паважаю —
Госцем раз у два гады
У яе бываю.

*Віктар Шымук*

## ТАКСАМА

Бацька скардзіцца, што ў яго баляць зубы.

— А ты што, тата, таксама імі дрот гнуў, як я? — пытае маленькі сын.

## Талаваломка

Сярод гэтай блытаніны ліній скрываюцца контуры шасці звяроў. Паспрабуйце іх адшукаць.



*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*





*Прыемнае з карысным спалучаючы...*

Muzyka: Sł. Kowalewski
Słowa: J. Kondratowicz

W krajobrazy zimy wpiszę
oczu twoich blask,
może wtedy będziesz,
bliżej może wtedy.

Białe niebo, biała ziemia,
białe płatki gwiazd,
tylko ciebie tutaj nie ma,
tak jak kiedyś.

Jesteś tam, jesteś tam,
gdzie burzany okrył śnieg,
gdzie stepowej drogi dal,
strome brzegi rzek,
gdzie stepowej drogi dal,
strome brzegi rzek.

W krajobrazy zimy wpiszę
ciepło twoich rąk,
twoje imię znów usłyszę,
twoje imię.

Nawet jeśli już ode mnie
odwrócitaś wzrok,
zawsze cię wspominał będę,
będziesz przy mnie.

Jesteś tam, jesteś tam,
gdzie burzany okrył śnieg...

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Данусі Іванюк з Вітава Гайнаўскага павета і «Марысі з Гайнаўшчыны» змяшчаем песню:

### KRAJOBRAZY ZIMY




## САКРЭТ

— Скажыце, — спыталі ў Бернарда Шоу, — сапраўды так цяжка пісаць драмы? Няўжо для гэтага трэба быць геніем?

— Ды не, адказаў драматург, — а сакрэт толькі ў тым, што трэба правільна размеркаваць чарніла на паперы.

## ТОЛЬКІ ПАСПРАБУЙЦЕ!

Леў па законах лесу займаў пасаду цара звяроў. Як і ўсе цары гэтай дынастыі, ён неахвотна займаўся службовымі справамі. Калі яго надта даймалі скаргамі, ён крыўдаваў:

— Думаеце, мне лёгка? Паспрабуйце самі сесці на маё месца!

Ніхто чамусьці не спрабаваў. Ведалі: усё роўна згоніць.

*П. Саковіч*

## ДЫЯГНАЗ

— Доктар, скажыце мне шчыра, якую хваробу вы знайшлі ў мяне? Але скажыце зразумела, на нашай мове.

— Нічога я ў вас не знайшоў — вы самы звычайны п'яніца.

— А цяпер прашу вас, паўтарыце тое самае па-лацыні, каб я мог сказаць дыягназ жонцы.

## СУВЯЗІ

— Ты ведаеш, яго жонка мае сувязь з усімі жыхарамі нашага горада...

— Не можа быць!

— Можа — яна працуе тэлефаністкай.

## ПАВЕРЫЎ

— Уяві сабе, што шчупак, якога я ўчора злавіў, меў каля двух метраў даўжыні. Павер мне, што я такога яшчэ не бачыў...

— Ахвотна веру...

## ПАХВАЛІЎСЯ

Пяцікласнік Пеця прыйшоў са школы і пахваліўся:

— Тата, а Жэнька сёння аж тры двойкі атрымаў!

— Ну, а ты?

— А я толькі дзве.

## ЗНАХОДЛІВАСЦЬ

— Скажы, як табе ўдаецца ўвесь час атрымліваць ад мужа грошы?

— Вельмі проста! Я кажу яму, што вяртаюся да сваіх бацькоў, і ён тут жа дае мне грошы на білет.

## БЕЗ ПРЫЧЫНЫ

— З якой прычыны ты развёўся з жонкаю?

— А што, без прычыны хіба нельга разводзіцца?

## ЦІ ТАМ МАЦІ?

Алік пачуў, што на Месяцы высадзіліся касманаўты.

— Тата! І мама там з імі?

— Чаму ты так думаеш?

— А яна казала, што едзе на месяц у адпачынак.

## ЗДЗІВІЎСЯ

Гарадскі хлопчык у вёсцы ўбачыў незвыклае: лежачы на баку, конь спрабаваў праз спіну пераварнуцца на другі бок.

— Глядзіце, глядзіце! Конь угорунагаецца, — закрычаў ён.



*— Цяпер ведаю: ты мяне кахаеш.*

# Кур'ёзы

## УСЕ ДАРОГІ ВЯДУЦЬ...

...да спорту. Гэта мог бы сказаць Хорхе Элосіо, цяпер даволі вядомы аргенцінскі спартсмен. Гады тры назад ідучы па шашы, Хорхе падвергся нападу велізарнага быка. Быка раззлавала чырвоная кашуля Элосіо.

Страх, як вядома, пяткі змазвае, а таму Хорхе ўцякаў з усіх сіл. Але і бык імчаўся з гіганцкай хуткасцю.

Выратаваў Элосіо сустрэчны аўтамабіль, за рулём якога сядзеў трэнер Мануэль Кальє. Мінуты тры ён з задавальненнем назіраў за ўсёй гонкай і толькі пасля адчыніў дзверцы.

Хорхе Элосіо цяпер чэмпіён Аргенціны ў бегу на кароткія дыстанцыі. А Кальє часта ездзіць каля жывёлагадоўчых ранчо...

## НЕВАРАКІ ПАШТАЛЬЁНЫ

Пасля шматлікіх скаргаў на лонданскі паштамт з прычыны таго, што пісьмы прыходзяць не па адрасу, вырашана было высветліць прычыны непаладак.

Праз тыдзень работы камісія паважаных сувязістаў устанавіла, што цяжка было б не блытаць адрасы: у Лондане аказалася 139 Мэйн-стрыт, г.зн. Галоўных вуліц, 91 Вакзальная, 79 Царкоўных, 67 Паркавых, 51 Вікторыя-стрыт.

Лепш за ўсё былі справы з адрасатамі, якія жывуць па Альберт-стрыт, якіх (маецца на ўвазе Альберт-стрыт) усяго 49...

## МЭТА ЖЫЦЦЯ

Жыхар аднаго англійскага гарадка Комус Эліат паставіў мэтай свайго жыцця выпіць па куфлю піва ў кожным шынку Англіі. За чатырнаццаць год ён частаваўся ўжо ў 4500 піўных. Яшчэ шэсцьдзесят пяць тысяч чакаюць незвычайнага госця.




*Ветру можна пазайздросціць: ён заўсёды сам вырашае, у які бок дуць.*